Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляунічы Беларусі

Орган беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляўнічых

1929
№ 5
Май

Год выданьня III



Увясну

Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# Паляўнічы Беларусі

№ 5 май. Штомесячная часопісь. Орган Белкахотсаюзу. Год выданьня 3-ці. 1929

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На 1 год . . | 2 р. — к. |
| На 6 м-цаў . . | 1 р. 20 к. |
| На 3 м-цы . . | — 70 к. |

АБВЕСТКІ:

| | |
|---|---|
| Старонка перад тэкстам | 150 р. |
| На апошн. стар. вокл. | 100 р. |
| Ззаду тэксту . . . | 70 р. |
| Аб прапажы сабак . . | 1 р. |
| Аб прадажы сабак . . | 3 р. |

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

*Менск, Савецкая, № 71. Тэлефон—405.*

## ЗЬМЕСТ



# Культработа ў сыстэме паляўнічае каапэрацыі.

*(Да абгаварэньня на акруговых сходах упаўнаважаных).*

Такое пытаньне пастаўлена на парадак дня акруговых сходаў упаўнаважаных саюзу паляўнічых, пасьля чаго яно будзе абгаварвацца на Ўсебеларускім зьезьдзе.

Фактычна культработа спэцыяльным дакладам абгаварваецца ўпяршыню. Чаму „Белкохотсоюз" рэкамэндаваў акруговым праўленьням паставіць гэта пытаньне на абгаварэньне акруговых сходаў упаўнаважаных і чаму яно ставіцца на абгаварэньне Ўсебеларускага зьезду? Таму, што неабходнасьць разгортваньня культурнай работы зараз паўстае ва ўсю шырыню, таму, што культурныя патрэбы паляўнічае масы за гэты час значна ўзрасьлі, і таму, што мы пачалі зараз будаваць паляўнічую гаспадарку, лёс, якой залежыць толькі ад узросту сьвядомасьці саміх паляўнічых мас. Зараз наступіў пэрыад, калі старыя паляўнічыя-аматары павінны ўступіць сваё месца паляўнічым-гаспадарнікам, паляўнічымм - каапэратарам,—будаўнікам народнае сацыялістычнае гаспадаркі краіны.

Трэба прызнацца, што дзякуючы паляўнічай няпісьменнасьці, ня толькі вясковыя паляўнічыя, але і значная частка гарадзкіх—сьвядомых паляўнічых, мала разьбіраюцца ў паляўнічых справах і, ня гледзячы на тое, што яны фармальна зьяўляюцца паляўнічымі (маюць білет на права паляваньня), нярэдка ня маюць паняцьця, калі і на якога зьвера трэба паляваць, і не знаёмы з пастановамі, ураду аб правілах паляваньня.

Таму разгортваньне культурнае работы ў сыстэме паляўнічае каапэрацыі зьяўляецца задачай аднэй з важнейшых і неадкладных.

Ня маючы вопыту ў гэтай галіне работы, у кожнага паўстае пытаньне,—з чаго-ж пачаць? Бязумоўна з нізавое сельскае паляўнічае ячэйкі. Асяродак цяжару разгортваньня культурнае работы павінен быць перанесен на вёску.

Як-жа гэта зрабіць? Ці не адказацца, такім чынам, ад кіраўніцтва ёю бюро райкалектывам і акруговым праўленьнем, ці, пэўней кажучы, перакласьці з сваіх плеч на чужыя, а такіх зьявіш у нас ня мала, калі некаторыя бюро райкалектываў і акруговыя праўленьні пастанаўляюць арганізаваць у той ці. іншай вёсцы гурток і далей ні ў чым не дапамагаюць. І нядзіва, калі ніводзін з гэтых гурткоў не працуе, бо ні бюро райкалектыву, ні акруговае праўленьне сыстэматычна культработаю ня кіруюць, не забясьпечваюць вясковыя гурткі літаратурай і г. д.

Перанесьці асяродак цяжару культурнае работы на вёску — гэта значыць весьці масавую гуртковую работу сярод паляўнічых вёскі пад непасрэдным кіраўніцтвам і матар'яльнай дапамогай райбюро і акруговых праўленьняў. Мы лічым, што для гэтага неабходна ў першую чаргу ўтварыць сталыя культурныя камісіі ў акругах, а гэта значыць, што пры абіраньні акруговага праўленьня трэба будзе ўлічыць гэта, каб увесьці ў склад яго аднаго ці двух добрых арганізатараў культурнае работы, не ўскладаючы яе, як гэта было да гэтага часу, на членаў праўленьня, якія перагружаны іншэй работай, на людзей, якія ня могуць зьвярнуць ёй максымум увагі,—даручыць вядзеньне гэтай работы працаздольнаму члену бюро райкалектыву ў раёне і трэба цесная ўвязка яе з культасьветнымі ўстановамі і арганізацыямі на мясцох.

Ці маем мы зараз магчымасьці разгарнуць культработу? Ці хопіць на гэта сілы і сродкаў? Маем магчымасьць, можам і павінны яе разгарнуць. Тут толькі неабходна жаданьне і ініцыятыва. Вельмі часта прыходзіцца чуць заявы—што няма каму весьці гэту работу на вёсцы, няма літаратуры і г. д. Ці адказваюць сапраўднасьці гэтыя заявы? Бязумоўна не. Мы да гэтае работы на вёсцы не прыцягнулі блізкую нам вясковую інтэлігэнцыю: настаўніка, агранома, лясьнічага, вясковага фэльчара, дэмабілізаванага чырвонаармейца і ім роўных, з якіх на вёсцы ня мала паляўнічых. Мы культфонды скарыстоўваем не па прызначэньню.

Гэтыя магчымасьці трэба скарыстаць, бо бяз іх мы культработы ніколі не разгорнем.

Зараз большасьць ужо акруговых праўленьняў забясьпечыла раёны бібліатэкамі, арганізавала сталыя бібліатэкі пры акруговых праўленьнях, а калі паглядзець, які мы маем эфэкт ад гэтых бібліатэк, можна сьмела сказаць, што далей акругового і раённага цэнтру бібліатэкі не пайшлі. Вёска аб іх ня ведае, а адсюль вынік, што мы правалілі ў гэту зіму ўсю гуртковую работу на вёсцы па праграме, якая была паслана „Белкохотсоюзам“. Праграма на вёсцы была своечасова, а падручнікаў для заняткаў ня было і няма яшчэ іх зараз. Мы таксама раілі арганізаваць пры хатах-чытальнях паляўнічыя гурткі, а матар'яльная дапамога для арганізацыі іх з боку акруговых праўленьняў ня была аказана.

Гэтыя памылкі трэба зараз-жа выправіць. Нам неабходна мабілізаваць зараз усе сродкі і сілы, каб скарыстаць мёртвы паляўнічы сэзон для разгортваньня культурнае работы, памятаючы, што бяз гэтага разгарненьня аднаўляць паляўнічую гаспадарку будзе вельмі цяжка.

Але-ж аднэй гуртковай работай ня вычэрпваецца культурная дзейнасьць, а асноўнай зьяўляецца масавая культработа, да якой у першую чаргу адносіцца паляўніча-каапэрацыйная прапаганда, куды трэба ўключыць і вытворчыя нарады, пабудова тыраў, стэндаў, арганізацыя экскурсій, наведваньне там, дзе гэта магчыма, музэяў і гадавальнікаў, арганізацыя спаборніцтва на лепшага стралка, лекцыі, даклады і інш.

Гэтыя галіны масавай работы трэба і неабходна скарыстаць зараз, калі мы яе можам праводзіць на сьвежым паветры, прыцягнуўшы і сялян-непаляўнічых.

Каб дасягнуць пастаўленай мэты, гэту работу трэба арганізаваць так, каб яна адначасова служыла і адпачынкам і вучобаю.

Выканаць намечаныя мерапрыемствы мы зможам тады, калі пляны культурнае работы будуць увязаны з агульнымі плянамі работы паляўнічае каапэрацыі і з плянамі культурных арганізацый і ўстаноў на мясцох.

---

А. У. Белян.

# Яшчэ аб каапэраваньні беднаты.

Да гэтага часу амаль што ўсе нашы акруговыя арганізацыі не прыступілі да скарыстаньня фондаў каапэраваньня беднаты, а некаторыя з іх яшчэ гэтых фондаў зусім не вылучалі.

Трэба зараз-жа практычна прыступіць да гэтае работы. Раней за ўсё трэба правесьці шырокую растлумачальную кампанію, скарыстаць дзеля гэтага выезды для арганізацыі сельскіх ячеек, прыцягнуўшы да гэтай справы камітэты ўзаемадапамогі, каб яны таксама прынялі ўдзел як у паведамленьні беднаты, так і непасрэдна ў каапэраваньні.

Каапэраваць трэба толькі выключна вясковую бедноту і батрацтва. Пазыкі для каапэраваньня, на падставе лісту „Белкохотсаюза“ на імя акруговых таварыстваў, выдаюцца на тэрмін ня больш двух год з такім разьлікам, каб бядняк мог унесьці частку паю, падлягаючую пры ўступленьні ў саюз. Таксама можа быць выдадзена пазычка і для ўступнага ўзносу.

Нельга дапушчаць выпадкаў каапэраваньня бяз ведама асоб, якіх каапэруюць. Нас могуць запытаць—каго і як каапэраваць. Гэта не спажывецкая сельскагаспадарчая альбо крэдытная каапэрацыя, адным каапэраваньнем паляўнічага ня зробіш. Гэта зусім зразумела і правільна. Трэба ўцягнуць у паляўнічую каапэрацыю тых беднякоў і батракоў, якія маюць жаданьні займацца паляваньнем, каб павялічыць свой прыбытак у гаспадарцы, але ня маюць самае галоўнае—зброі для паляваньня. Дзеля гэтага акруговыя таварыствы вылучаюць побач з фондамі каапэраваньня, фонды крэдытаваньня беднаты.

У тым-жа дырэктыўным лісьце „Белкохотсаюза“ сказана аб тым, каб забясьпечыць каапэруемых канфіскаванай зброяй ад браканьераў па сабекошту. Трэба паклапаціцца, каб і іншыя маламоцныя колы паляўнічых былі задаволены з найменшым на гэту зброю накладаньнем, гэта значыць па найбольш дзяшовай цане.

У паляўнічай каапэрацыі вельмі мала моладзі і камсамольцаў, таму трэба пачаць сталую працу сярод біднацкай і батрацкай моладзі, скарыстаўшы дзеля іх каапэраваньня фонд каапэраваньня.

Трэба ад слоў перайсьці да справы.

---

**Аднаўляць паляўнічую гаспадарку без разгортваньня культурнае работы—вельмі цяжка.**



**Каапэраваць бедноту, скарыстаўшы для гэтага фонд каапэраваньня—наша неадкладная задача.**

# СЬПЯВАК ЖЫЦЬЦЯ ЖЫВЁЛЫ.

*(Да стагодзьдзя з дня нараджэньня Альфрэда Брэма).*

З артыкула праф. **П. Ю. Шмідта.**

ТО ня ведае „Жизни животных“ Брэма? Хто не зачытваўся гэтымі захапліваючымі, незабываемымі апавяданьнямі аб характарах і прывычках жывёлы і птушак, аб іх розуме і дагадлівасьці? Не, здаецца, няма кнігі, якая-б была так добра вядома ўсім аматарам прыроды. Аб Брэме ўспамінаеш тады, калі толькі захочаш пазнаць што-небудзь падрабязнае аб жыцьці тае ці іншае жывёлы.

Альфрэд Брэм ня быў сам прафэсыянальным вучоным. Натураліст—аматар, паляўнічы і падарожнік, ён уперад за ўсё быў выдатным пісьменьнікам-паэтай, глыбока адчуваючым прыгожасьць прыроды і з захапленьнем апісваючым зьвяроў і птушак, у жыцьці якіх ён умеў бачыць самыя тонкія рысачкі, якія-б ня бачыў звычайны назірацель. Яго яскравыя зацікаўленьні паняволі перадаюцца чытачу, і, сочачы за апісаньнямі аўтара, так хочацца самому падглядзець таямніцы трапічнага лесу або палярнай тундры, пранікнуць у інтымнае жыцьцё іх жыхароў, прыслухацца да таемных гукаў пустыні.

Ня гледзячы на тое, што Брэм не прайшоў сур'ёзнай навучальнай школы, яго веды ў галіне жывёлы былі выключны. Ён накапіў іх паступова ў часы падарожніцтваў чуць не па ўсяму сьвету і ў бытнасьць сваю дырэктарам Гамбургскага заалёгічнага сада.

Ён нарадзіўся 2 лютага 1829 году ў вясковым пастарскім доме ў Саксен-Веймарскам гэрцогстве ў Нямеччыне. Бацька яго, пастар, быў разам з тым выдатным аматарам - арміталёгам, які сабраў вялізарную калекцыю птушак і найлепш ведаў пярнатае насельніцтва аколіц.

У тыя часы Нямеччына ня была яшчэ так густа заселена, як зараз, і кругом на дзесяткі кілёмэтраў цягнуліся незачэпленыя лясы, у якіх было поўна птушак. Пад кіраўніцтвам бацькі, Брэм навучыўся пазнаваць птушак, пазнаёміўся сур'ёзна з іх сыстэмікай і біолёгіяй і атрымаў смак да паляваньня і спадарожніцтва.

Калі Брэму мінула 18 год, адбыўся выпадак, які павярнуў усе яго намеры і накіраваў яго жыцьцё па іншаму шляху. Нехта Мюлер задумаў зрабіць падарожніцтва ў Афрыку і стаў шукаць сабе спадарожніка, які мог-бы заняцца зьбіраньнем навуковых калекцый. Ён прапанаваў гэтую працу маладому Альфрэду Брэму і той з радасьцю згадзіўся.

Улетку 1847 году Брэм упяршыню стаў на глебу Афрыкі, дзе далей яму было суджана зрабіць так шмат каштоўнага для навукі. Ён разам з Мюлерам падняўся на барцы да Асуана, вандраваў і паляваў у лясох Судана, жыў доўгі час у Хартуме і адтуль зрабіў шэраг экскурсій на Галубы Ніл, а потым на Белы Ніл і ў Кардафан. У тыя часы падарожніцтва па Афрыцы было зьвязана з вялікімі цяжкасьцямі і небясьпекамі. Падарожнікам прышлося перажыць шмат усякіх няпрыемных здарэньняў і перахварэць трасцай, але дабыча за гэта была багатая, асабліва па птушках. Дасьледчыкі прапрацавалі ў нетрах Афрыкі паўтара гады і толькі ў канцы 1848 году вярнуліся ў Каір, адкуль Мюлер накіраваўся ў Эўропу, а Брэм застаўся ў Эгіпце, каб падрыхтаваць новае падарожніцтва ў нутраную Афрыку. У Эгіпце ён прабыў да вясны 1850 году.



**Альфрэд Брэм**

(1829 г.—1889 г.).

У 1863 годзе Брэм выдаў свае згрупаваныя творы „Иллюстрированная жизнь животных“, якія складалі галоўную справу яго жыцьця. „Жизнь животных“ мела вялізарны посьпех. Творы гэтыя зьвярталіся не да спэцыялістых, а да масавага чытача, да ўсіх аматараў жывой прыроды, — яны захаплялі сваім зьместам і блізка знаёмілі з жыцьцём жывёлы. Найлепшыя ілюстрацыі Крэчмэра (у пазьнейшых выданьнях—Кунэрта і Мютцэля) папаўнялі тэкст жыва і дакладна схопленымі малюнкамі жывёлы. Кніга шпарка найшла вялікі круг чытачоў, вытрымала некалькі выданьняў і была перакладзена на іншыя мовы, у тым ліку і на расійскую.

Яшчэ ў часы працы над „Жизнью животных“ Брэм атрымаў месца дырэктара заалёгічнага саду ў Гамбурзе, а праз некалькі год яму прапанавалі арганізаваць у Бэрліне акварыум, які, разам з тым, быў і маленькім заалёгічным садам.

Пад канец жыцьця Брэму ўдалося зрабіць некалькі падарожніцтваў—на поўнач Нарвэгіі, у Ляпляндыю і Гішпанію і, урэшце, да нас, у Сібір і Туркестан. Ён пабываў у 1876 годзе ў самых цікавых мясцовасьцях паўночнага Туркестану і спусьціўся па Іртышу і Обі да Ледавітага акеяна. Гэта падарожніцтва пазнаёміла яго з зусім новым для яго жывёлавым мірам высокіх горных хрыбтоў—Цянь-Шаня, сібірскай тайгі і тундры.

Перанесёныя пры падарожніцтвах у Афрыку цяжкія хваробы моцна расхісталі і падарвалі здароўе Брэма, і ён скончаўся ад хваробы почак 11 лістапада 1884 г., усяго толькі 54 гады ад нараджэньня, яшчэ поўным сілы і энэргіі. „Жизнь животных“, створаная ім, і зараз засталася найлепшым творам. „Сьпявак жыцьця жывёлы“ ўтварыў сабе заслужаны помнік. („В. С.“).




## Пытаньне аб паляўнічай гаспадарцы на зьезьдзе лясных працаўнікоў.

*(З прамовы праф. Фядзюшына).*



АША паляўнічая гаспадарка яшчэ не наладжана. У апошні час на яе зьвернута вялікая ўвага дзяржаўных органаў, як на частку ўсёй нашай гаспадаркі.

Зусім забаронена вясеньняе паляваньне. Гэта мера шмат будзе садзейнічаць павялічэньню колькасьці дзічы, і вынікі ўжо ёсьць, напрыклад, павялічылася колькасьць глушцоў і касулі. Скарочаны тэрміны паляваньня—з 1 жніўня на балотную і вадаплаваючую дзічыну і з 1 кастрычніка—на пушнога зьвера. Гэта мера таксама садзейнічае палепшаньню паляўнічай гаспадаркі.

Для аздараўленьня гаспадаркі трэба правесьці наступныя меры: 1. Рэгуляваць адстрэл дзічы як па яго натуральнаму прыросту, так і вядомае колькасьці кожнае дзічы і для кожнага паляўнічага. Напрыклад, калі, скажам, было два вывадкі якой-небудзь дзічыны ў гэтым годзе, дык трэба адстраляць столькі, каб гэты від дзічыны ня зьнішчаўся тут, а рос і кожнаму паляўнічаму прышлося ў неперавышаючай колькасьці. 2. Забараняць адстрэл дзічы, якая ўжо выводзіцца ў нашым краі. 3. Абвяшчаць заказьнікі і запаведнікі. У гэтым напрамку шмат ужо зроблена. Абвешчана на абшарах БССР 38 заказьнікаў, плошчаю 70 тысяч гэктараў. У будучым гэта плошча павінна павялічыцца. Есьць адзін запаведнік, які мае значэньне па сваёй фауне ня толькі для БССР, а і для ўсяго СССР. Зьездам заалёгаў СССР, была вынесена рэзалюцыя, каб гэты запаведнік зрабіць навуковай установай ва Ўсесаюзным маштабе, бо ў ім ёсьць вельмі каштоўныя аб'екты як для паляваньня, так і для навукі, напрыклад, бабёр.

На жаль, у сучасны момант у запаведніку ня толькі не вядзецца навуковай працы, але наогул пастаноўка справы ў ім кепская. Штат егяроў падабран няўдала, з людзей, ня ведаючых паляўнічай справы а ад гэтага, бязумоўна, у значнай ступені залежыць посьпех у рабоце. Былі выпадкі і браканьерства з боку егяроў запаведніка. Напрыклад, адзін з іх, аб'езчык, забіў у запаведніку выдру, тымчасам ён яшчэ доўга працаваў пасьля гэтага ў запаведніку. Трэба зьвярнуць максымум увагі на ахову запаведніка і заказьнікаў.

Кепска і тое, што некаторыя адказныя працаўнікі ўстаноў адносяцца да паляўнічай гаспадаркі скэптычна. Ня гледзячы на тое, што куніца і вавёрка забаронены да адстрэлу, Дзяржгандаль дазваляў закупляць іх шкуркі. Неабходна сканцэнтраваць загатоўку пушніны ў адных надзейных руках.

Трэба зьвярнуць увагу на вельмі каштоўнага зьвера—выдру. Некалькі год таму назад шкурка выдры каштавала 20 рублёў, а зараз даходзіць да 200 руб. Вядома, што пры такім попыце на яе яна будзе хутка зьнішчана зусім.

Наогул-жа палепшаньне паляўнічае гаспадаркі можа ісьці і за кошт штучнага разьвядзеньня зьвера і птушкі, бо культура сельскай гаспадаркі і індустрыялізацыя робяць сваю справу. Карысна разводзіць, напрыклад, бурага ліса, андатру, трусоў і інш. У гэтай справе ёсьць ужо вялікія дасягненьні і ў нас у СССР і за мяжой. Вялікі ўплыў робіць на паляўнічую гаспадарку і падсеў кармовых траў.

Самая-ж галоўная мера падняцьця паляўнічай гаспадаркі—гэта падвышэньне культузроўню мас і, пакуль што, ахова яе ад браканьераў. Кара за браканьерства яшчэ слабая. Неабходна было-б зрабіць некалькі паказальных судоў над браканьерамі. Гэта адбіла-б ахоту ў браканьераў да паляваньня. А былі-ж выпадкі забойства каштоўных зьвяроў—лося, бабра, і тут трэба было-б зрабіць паказальны працэс над браканьерам.



**т. Хадановіч Базыль,** з вёскі Лазовічы Кармянскага р., інвалід працы, ходзіць на кавылях — адзін з найлепшых паляўнічых.

В. Данькоў.

# Драфа ў Мазырскай акрузе.

У 11 кілёмэтрах на паўднёвы захад ад г. Мазыра, недалёка ад в. Вялікі-Быкаў і Козенкі, з году ў год выводзіцца адзін, бывае два, вывадкі дрофы, даволі каштоўнай і рэдкаснай птушкі. Да 1927 году было зусім выпушчана з віду і не прадугледжана правіламі паляваньне на дрофу. Мяне ўпэўнівалі, што ў Беларусі дрофа ня выводзіцца, а калі і бывае, дык выпадкова пералётная, якую ня трэба браць пад ахову.

Пры гутарцы з старымі паляўнічымі мне ўдалося выясьніць, што некалі на абшары Беларусі, асабліва ў паўднёвай яе частцы, дрофа з году ў год гнездавалася, што мяне вельмі зацікавіла.

Будучы ў 1927 г. у службовай камандыроўцы на Мазыршчыне, я зусім выпадкова, на кватэры паляўнічага В. К. убачыў крылы дрофы. Мне ўдалося выявіць, што гэтыя дрофы былі забіты недалёка ад в. В.-Быкаў і што каля гэтай вёскі яны штогод прылятаюць і выводзяцца. У довад гэтага я знайшоў таксама чучала дрофы ў Мазырскім т-ве паляўнічых.



Дрофа.

Атрыманыя весткі мяне яшчэ не запэўнілі аб пасяленьні дрофы ў БССР, але ў 1928 годзе ў пэрыяд вывадкаў, мне самому прышлося пабываць недалёка ад в. В.-Быкаў і ўбачыць вывадак дрофы. Іх было 6 штук. З-за далёкай адлегласьці мне не ўдалося пазнаць, колькі з іх было маладых, але даволі таго, што ў Беларусі дрофа выводзіцца.

Устанавіць прысутнасьць дрофы ў іншых раёнах Мазыршчыны мне не ўдалося, бо некаторыя паляўнічыя і іх арганізацыі паведамілі мяне, што ў іх раёнах дрофы няма. Пры спробе знайсьці яе ў Гомельскай акрузе, я выявіў, што паляўнічыя часта бачаць дрофу больш за ўсё ўвосень, калі яна ляціць на зімоўку, а вывадкаў знайсьці так і не ўдалося.

З двухгадовых назіраньняў відаць, што ў нас дрофа выводзіцца толькі ў Мазырскай акрузе і ў адным месцы.

Я лічу, што Мазырскае т-ва паляўнічых павінна паклапаціцца аб ахове гэтай птушкі, аб'явіўшы месца вывадкаў заказьнікам, а паляўнічая маса прышле больш дакладныя весткі аб гэтай птушцы.

Праф. П. Елагін.

# Трусы*).

Па ўсіх краёх заўважваецца крызіс у мясе. У Германіі, напрыклад, дзе ва ўгоду буйных земляўласьнікаў высокімі пошлінамі пэрыядычна амаль забараняецца ўвоз мясных прадуктаў з другіх краёў, нярэдкі так званыя „мясныя бунты“, калі бяднейшая частка насяленьня, не даядаючы, рэзка выступае з патрабаваньнем адмены ўвозных пошлін на мяса, а штодзённыя чаргі за мясам, якое выдаецца ў абмежаванай колькасьці складаюць звычайныя зьявішчы. У прыватнасьці, у Баварыі, напрыклад, ядуць мяса сабак. У Францыі і Бэльгіі, дзе спакон-вякоў у вялізарных разьмерах займаюцца разьвядзеньнем трусоў, падобныя мясныя крызісы невядомы. У гэтых краінах мясам трусоў ня толькі насычаецца патрэбнасьць мясцовых рынкаў, але большая колькасьць гэтага прадукту вывозіцца на патрабуючы шмат мяса ангельскі рынак, куды таксама дастаўляецца вялізарная колькасьць мяса трусоў яшчэ і з Аўстраліі ў замарожаным выглядзе на параходах-халадзільніках. Агульнае спажываньне ў Англіі мяса труса складае больш за 40% усіх мясных прадуктаў.

Сярод насяленьня Парыжа, Вены і шмат іншых гарадоў за мяжой спажываньне мяса труса таксама ў вялікім ходзе. Для сельскага насяленьня Францыі і Бэльгіі трусова мяса зьяўляецца амаль выключнай мясной ежай.

Настолькі-ж значнае ўжываньне трусова мяса ўперад за ўсё тлумачыцца яго таннасьцю, што абумоўліваецца лёгкасьцю разьвядзеньня трусоў, якія жывяцца выключна расьлінаю і недалікатны на яду. Нярэдка задавальняюцца і кухоннымі адкідамі— шалухой картоплі, кусочкамі хлеба і інш., таксама непатрабавальны і да памяшканьня. Разам з тым яны пладавіты і скорасьпелы. Па пажыўнасьці, па ўтрыманьню бялкоў, трусова мяса стаіць на першым месцы, утрымлівае 32% бялка, тады як быкова мяса мае бялка 24%, баранова 20%, курынае 19% і г. д., вады-ж утрымлівае 61%, а быкова вады 71%, баранова 77%.

Мяса труса па смаку схожа з мясам курыцы ці індзюка. Пераварваецца яно лёгка, даходзіць да 90% і больш, гэта значыць усвайваецца арганізмам чалавека поўнасьцю, у той час калі быкова мяса пераварваецца толькі на 67%, у выніку чаго ў Заходня-Эўрапэйскіх дзяржавах для слабых арганізмаў прызнаецца найлепшым, нават стаячым вышэй курынага.

Будучы належным чынам прыгатавана, мяса трусоў вельмі смачнае. З мяса трусоў можна прыгатаваць якія хочаш стравы: супы, усякія жаркія, заліўныя, каўбасы і інш. Бульлён не адрозьніць ад курынага, а жаркое з трусоў адзываецца дзічай, што паляпшае смак.

Для асоб, якія жывуць далёка ад мясных рынкаў, як чыгуначнікі, лясьнікі, ды і для ўсіх іншых жыхароў у сельскіх мясцовасьцях трусы сваім мясам дадуць смачную і пажыўную яду, а мехам, шэрсьцю і шкуркаю прынясуць не малы прыбытак.

Будзем спадзявацца, што і насяленьне Беларусі сазнае вялізарную карысьць, прыносімую трусамі і ўзмоцнена зоймецца разьвядзеньнем гэтых высокакарысных зьвяркоў.

*) Глядзі № 4 „Паляўнічы Беларусі“.

Д. В. Востряков.

# Разведение серой куропатки и фазана.



ЛАГОДАРЯ катастрофическому исчезновению за последнее время дичи, необходимо позаботиться об ее разведении искусственным путем.

Весьма подходящей полевой дичью для разведения надо считать серую куропатку, и ее следует всеми мерами распространять и разводить, тем более, что это не так уже трудно.

По своей природе, по крайней мере в нашей средней полосе, серая куропатка птица кочующая. Опыт показывает, что серая куропатка, даже будучи поставлена в благоприятные для ее существования и размножения условия, будучи защищена в зимнее время устройством шалашей от стужи и снега, и подсыпкой в них корма, все же, на основании каких либо причин, внезапно исчезает из насиженных мест, также внезапно появляясь в тех местах, где ее не было.

Поэтому, весьма желателен ежегодный подпуск новых пар серых куропаток. Подпуск этот надлежит производить недели за 2—3 до гнездования, т.-е. примерно, к моменту, когда в нашей средней полосе в лесу сходит последний снег. Если серую куропатку выпустить раньше, то она может уйти так далеко, что будет потерян смысл выпуска для тех, кто намерен заниматься разведением ее.

Прекрасные результаты дают серые куропатки, выписываемые из Богемии, ныне Чехо-Словакии. Куропатка эта крупнее нашей и красиво отличается от нее своим темно-сизым, как у домашнего голубя, оперением, с ярко-коричневым большим пятном на груди у самцов. Выводки богемских куропаток свободно метизировались с нашими русскими, и, таким образом, получалось три вида серых куропаток: 1-й—русская, сравнительно мелкая, с бледно-окрашенным оперением, 2-й—богемская—крупная, ярко окрашенная и 3-й межеумочная в отношении величины и окраска.

Хорошие результаты дало и разведение фазанов. Опыт показал, что фазан прекрасно переносит суровые условия нашего климата, при условии, если ему обеспечено достаточное количество корма, предоставленного ему в определенных, равномерно расположенных, местах в соломенных или тыновых шалашиках, могущих одновременно служить ему и убежищем от непогоды.

Наиболее устойчивым показан манчжурский фазан.

Разведение фазанов может быть разделено на три стадии: 1 — разведение в неволе, для подготовки ко 2-й стадии разведения их в полуневоле и 3-я стадия—размножение их на воле.

В первой стадии разведение фазанов происходит на самой усадьбе, в непосредственной близости к жилью человека. В укромном месте, обращенном на солнце и прилегающем, по возможности, к лесу, строится из нетолстого леса, неотопляемый, немного выше роста человека, фазанник, разделенный на несколько (5—6) отделений. Все эти отделения с входной стороны соединяются общим корридором, в котором можно поместить весь инвентарь, потребный для обихода. Из корридора в каждую часть делается низенькая дверь с небольшим стеклом. Стекло это, предназначенное для наблюдений, должно быть закрыто занавеской или задвижкой.

В каждом отделении должно быть сделано небольшое окно, обращенное в выгул. В каждом отделении фазанника устраиваются закрытые помещения для носки яиц.

Каждое отделение должно иметь свой особый, по возможности обширный, выгул; выгулы с боков должны быть больше тех, которые помещаются между ними, так как под них можно захватить боковые стены фазанника; выгулы соединяются с отделением отверстием с задвижкой, чтобы можно было препятствовать фазанам входить во время чистки отделении или выгулов. Каждый выгул должен быть отделен сеткой из шпагата, отнюдь не проволочной, в особенности сверху—фазаны имеют обыкновение в выгулах взлетать и о проволочную сетку разбивают себе головы. За целостью сетки из шпагата, которую хорошо пропитывать каким-нибудь карболинеумом, надо зорко следить, в особенности зимой, когда она сверху заполняется снегом.

Выгулы следует засаживать хвоей, подстригать ее для того, чтобы она разрасталась в ширину и не перерастала сетку. В каждое отделение весной следует сажать одного петуха и двух-трех кур-фазанок—они будут, так сказать, основным капиталом фазановодства, давая материал для дальнейшей стадии разведения в полуневоле.

Уход за фазанами довольно прост, но, конечно, требует бдительности и внимания. Они довольствуются тем же кормом, что и курица. Фазанка в неволе не садится на яйца и в смысле вывода в фазаннике на нее расчитывать не приходится; несется же она хорошо, поэтому выводить фазанят может наседка-курица. Для этой цели особенно хороши индюшки. Индюшку можно насильно заставить рассидеться, посадив ее на гнездо, сперва с искусственными, каменными яйцами; для этого следует только посадить ее в темном помещении на гнездо так, чтобы она не могла встать, и дня через 3—4 она будет считать себя заправской наседкой—тогда и следует подложить фазаньи яйца.

Таким образом, индюшка доставляет то несравненное удобство, что вывод фазанят можно регулировать, в отношении сроков, по желанию.

Когда фазаненки на возрасте, случается, что некоторые из них ни с того, ни с сего начинают болеть ногами и гаснуть в довольно большом проценте. Сильные холода, нередко наступающие у нас весной ко времени вывода, застуживают молодежь в первые же дни их жизни и обусловливают сильный понос и судороги. Этому досадному обстоятельству противодействуют питанием муравьиными яйцами, творогом, перемешанными с нарубленной крапивой. Те фазанята, которые перенесут эти невзгоды, растут легко и быстро.

Территорию для 2-й стадии—полуневоли, желательно отводить где-небудь в сравнительной близости от усадьбы, так как между этими пунктами должно быть довольно частое общение для дачи корма и по наблюдению вообще. Площадь этой полуневоли, необходимая весной и летом, должна быть размером примерно в 2—3 гектара отведена в лесу, местами с густым насаждением и непременно с водой, ручейком или частью озерка.

Вся площадь обносится частоколом или тыном, несколько выше человеческого роста с поднятой рукой, врытым в землю, так хорошо и прочно пригнанным, чтобы ни один фазан ходом не мог проникнуть за ограду. Частокол этот должен быть тщательно лишен и пропускной способности.

Внутри этой площади вальеры—полуневоли, в разных местах ставятся кормушки и шалаши из соломы или прутьев и в нее ранней весной пускаются петухи и фазанки, которые устраивают себе гнезда, где заблагорассудится, кладут яйца, и которым предоставляется свобода высиживания цыплят. Эти петухи и фазанки берутся из основного фонда—фазанника, находящегося на территории усадьбы. Этим фазанам, предварительно перед пуском их в вальеру—полуневоли, пресекается способность летать. Если требуется лишить птицу возможности летать временно, то на одном. или обоих крыльях, туго перевязываются, лучше шелковой ниткой, 3—4 маховых пера; если же навсегда, то отрезаются фаланги, т.-е. короткая, крайняя часть крыла.

В вальеру—полуневоли летом можно переводить окрепшие выводки фазанят из-под кур-наседок и индюшек. Выводки развиваются там и к осени, став на крыло, улетают постепенно на волю, возвращаясь в вальеру. Эта молодежь понемногу наполняет собой округу; подкармливается зимой и усиленно охраняется от хищников, она и составляет фонд, подлежащий далее размножению в диких, естественных условиях, т.-е. в третьей стадии.

Зимой площадь вальеры—полуневоли ни на что не нужна; налетающие фазаны поздней осенью из нее вылавливаются и пересаживаются на зиму в фазанник при усадьбе. Поздней осенью надлежит производить тщательный ремонт изгороди.

На всей территории, на которой культивируется дичеразведение, подкормка всякой разводимой дичи необходима.

Не менее необходима интенсивная, самая беспощадная и постоянная борьба со всякого рода пернатыми, включая ворон и сорок и четвероногими хищниками.

Без этих двух стимулов все заботы и труды никак не могут расчитывать на успех.

**Охоткоры! Пишите, как у вас прошла отчетно-перевыборная кампания бюро райколлективов.**

# ПУШНЫЕ ЗАГОТОВКИ.

Ботвич.

## Была недоговоренность.

Период зимней охоты 1928-29 г., а также и отстрел пушного зверя был весьма тяжелым: первые зимние месяцы были засушливыми, с ночными заморозками, а последующие—с большим снегопадом и морозами, сильными ветрами, сдувшими весь снег в леса и к опушкам, что заставило зверя, за отсутствием там пропитания, выйти на поля и луга, где охота как с гончими, так и с подхода затрудняется: зверь не держит тропы, не возвращается к месту, откуда поднят, замечает на далеком расстоянии охотника и т. д.

Все эти неблагоприятные для охоты атмосферные явления дали возможность выполнить задание соответствующих органов по плановой заготовке пушнины по Гомельскому округу по последним сведениям только на 50,5%.

Помимо этого, мешали заготовке и такие явления, как, например: в Ветковском районе наблюдались факты скрытого повышения синдицированных цен на пушнину некоторыми заготовительными органами (что подтверждено актом). Гордуновское П. О. купило лисицу у гр. Харкова за 18 руб., мы же и райсоюз оценили эту лисицу за $^1/_4$ головки, т.-е. 4 р. 50 к., вторую лисицу это же П. О. купило за головку, райсоюз принимал ее только за $^1/_4$ головки. На рынке в Гомеле был задержан представитель Шарпиловского П. О., продающий лисицу и просивший 23 руб. (доведено до сведения Окрторга). Лисица куплена нами за 18 руб. Есть и более вопиющие факты. Так, в Лоевском районе за принятую пушнину П. О. выплачивало хлебом по твердой цене 1 руб. 40 коп. за 16 килограмм. И если взять лисицу за целую головку—18 руб., П. О. платило 192 кгр. хлеба. На частном рынке 16 кгр. хлеба ценились в 3 руб. 50 коп.—4 руб. Таким образом за лисицу платили по 42—48 руб. Уплачивали и другими дефицитными товарами. Это скрытое повышение цен и вносило дезорганизацию в заготовку пушнины. Необходимо в будущем заготовительном сезоне созывать всех основных заготовителей, информировать о ходе пушных заготовок, выпячивать большие моменты и т. п.

Был еще целый ряд нездоровых явлений в нашей работе, как расхождение в определении стандарта-кряжа или, попросту выражаясь, ассортимента пушнины отдельными работниками заготовок.

Плохо и то, что наш охотник, а в особенности деревенский, до сих пор не научился снимать и просушивать шкурки. А ведь редакция журнала „Паляўнічы Беларусі" разослала всем подписчикам книжку о снимании шкурки!

К дефектам в заготовке пушнины необходимо отнести еще два явления: первое то, что Белкохотсоюз с начала заготовительного сезона не стандартизировал цен на кошек и таковые нами заготовлялись по 1 руб. штука, независимо от размера и масти, а принимались Белкохотсоюзом по 1 руб., 75—50 коп. штука, смотря по размеру и второе то, что пушнина окртовариществами отправлялась в Минск Госторгбелу и при приеме там оказывались расхождения в кряже, в то время, когда должны были бы специалисты из окрторгов дать указания по этому вопросу.

Помимо всех вышеизложенных недостатков и дефектов, есть и достижение в нашей работе, это то, что частник-скупщик выжит с рынка.

---

Сушкевич.

## О стандарте на пушнину.

В № 3 „Охотник" помещена статья т. Ушакова „Неувязки в пушном стандарте". Вопрос этот поставлен своевременно, чтобы в будущем заготовительном сезоне не повторять этих недостатков. Необходимо уточнить и дать более определенные, одинаковые для всех заготовителей указания, чем „небольшие плешины" „рваный" (барсук) и проч., ибо все эти данные о дефектности шкурки очень трудно применить однообразно, не имея хотя-бы приблизительных указаний, как определять дефектность по их величине в сантиметрах. Отсутствие измерения дефектности шкурки дает возможность применять стандарт в каждом отдельном случае по своему личному взгляду приемщика, что не дает однообразной приемки и возможности контроля по всем заготовительным учреждениям. Этим можно было-бы также избежать многих споров и ошибок при сдаче пушнины.

Я не знаю, как составляются спецификации при отправке пушнины из округов в центр, но приемка по районам и округам производится почти без всякого учета дефектности. Особенно ярко это сказывается на хоре темном и зайце. В отношении зайца русака стандарт предусматривает: 1-ый сорт—100%, 2-ой—50% и за дефект—скидка 50%, а всеми нашими специалистами заяц попрежнему принимается за 100, 75, 50 и 25%, да еще к этому добавляется брак, так называемый „бегун". Заяц-беляк тоже самое. Ясно, что здесь правильной приемки по стандарту быть не может и здесь страдает сдатчик пушнины, так как приемщик старается отстоять интересы заготовителя.

Кроме того, сдатчику неизвестно, насколько учтена дефектность шкурки и у него создается мнение, что дефектность не учтена и деньги получены полностью за 1, $^3/_4$, $^1/_2$ или $^1/_4$ головки. Все это делает сдатчика недоверчивым к приемщикам разных организаций, если один наглядно укажет на дефект, а другой учтет его только мысленно.

Наши практики хоря 1-го сорта с большими дефектами ставят в 3 сорт, т.-е. платят 50% стоимости, тогда как по стандарту полагается 34%, а где-же 16%? Это-же явная переплата! Если-же такого хоря принимать за 4-ый мифический сорт, так как его в стандарте нет, то за него платят 25%; а где 9%? Это уже недоплата. Вот до чего доводят такие практические деления на 1, $^3/_4$, $^1/_2$ и $^1/_4$ головки и вот их то и необходимо изжить.

# Конкурс на зьнішчэньне драпежнікаў.

**Страты, якія прыносяць драпежнікі нашай сельскай гаспадарцы на Беларусі, з кожным годам павялічваюцца. Аб гэтым яскрава сьведчаць тыя лічбы і зьвесткі, якія мы ніжэй гэтага друкуем. Яны гавораць за тое, што мы павінны зараз-жа мабілізаваць агульна-грамадзкую думку ўсіх паляўнічых і насельніцтва навокал пытаньня барацьбы з дрепежнікамі і, асабліва з ваўкамі, лічачы гэту работу важнай і адным з мерапрыемстваў паднясеньня ўраджайнасьці беларускіх палёў.**

**Нікому не сакрэт, што калі ў бедняка воўк зьнішчае каня, яму вельмі цяжка набыць сабе другога каня і для апрацоўкі сваёй зямлі ён вельмі часта ідзе на паклон да кулака, а потым плоціць яму столькі, колькі кулак сам захоча. Гэта мы павінны ўлічыць.**

**Весьці бязьлітасную барацьбу з гэтым шкоднікам сельскай гаспадаркі мы можам толькі арганізавана, толькі калектыўна, прыцягнуўшы да ўдзелу ў ёй ня толькі паляўнічых, але і ўсё насельніцтва вёскі і ўсе грамадзкія арганізацыі.**

**Своечасова і ўпаўне правільна паступіла Ц. П. „Белкохотсоюза“, калі яно вынесла пастанову аб абвяшчэньні першага ўсебеларускага конкурсу на зьнішчэньне драпежнікаў і, асабліва, ваўкоў. Дзяржстрах, Наркамзем, Наркамгандлю і „Белкохотсоюз“ вылучылі для гэтай мэты прызавыя сродкі ў колькасьці 4000 рублёў. Згодна пастановы „Белкохотсоюза“ і конкурснай камісіі, конкурс павінен пачацца 15 чэрвеня гэтага году і працягвацца да 1 мая 1930 году. Падрыхтуемся своечасова да яго правядзеньня.**

Н. Е. Ц.

## Як весьці барацьбу з ваўкамі ўлетку.

Па вестках Белдзяржстраху ваўкамі зарэзана за 1928 г. па БССР буйной жывёлы: коняй—1034 шт., за якіх выплачана страхоўкі 31.020 руб., кароў—1127, выплачана страхоўкі 22.180 руб., а ўсяго выплачана страхоўкі 53.200 руб. Калі-ж ацаніць гэту жывёлу па натуральных цэнах, дык гэтая лічба павялічыцца ў чатыры разы, а калі ўлічыць яшчэ буйную жывёлу, якая не застрахавана і зьнішчана ваўкамі, ды дабавіць дробную, заедзеную ваўкамі, жывёлу, як: сьвіньні, авечкі, цяляты, гусі, сабакі і інш., якая ад зьнішчэньня ваўкамі зусім не страхуецца, дык атрымаецца сума ў 20 разоў большая паказанай.

А колькі гіне ад ваўкоў паляўнічай і пушной жыўнасьці!

Як-жа вядзецца барацьба з гэтым драпежнікам? На гэта пытаньне нам дае адказ дасьледчык паляўнічае гаспадаркі праф. Фядзюшын у сваёй кнізе *), дзе гаворыць, што апошнія дзесяць год аб арганізаванай барацьбе з ваўкамі нават ніхто і ня думаў, у выніку чаго колькасьць ваўкоў ня толькі не паменшылася, але ў некаторых акругах павялічылася.

Усё гэта гаворыць за тое, што мы павінны пачаць бязьлітаснае зьнішчэньне гэтага страшэннага драпежніка.

Як-жа больш пасьпяхова зьнішчаць ваўкоў? Спосабаў зьнішчэньня ваўкоў ёсьць шмат, а галоўныя з іх наступныя тры: 1) стральба з-пад гону добрых ганчакоў, але гэты спосаб некалькі год ужо не практыкуецца, бо такіх сабак у нас у БССР няма; 2) спосаб абкладу флажкамі. Гэты спосаб пры дысцыплінаванасьці стралкоў і добрым абкладчыку ўзімку дае добрыя вынікі, але ён патрабуе невялікіх сродкаў і таму арганізаваць яго цяжка на вёсцы; 3) спосаб праз зьнішчэньне вывадкаў улетку ў гнёздах, які дае вельмі добрыя вынікі, калі добра арганізаваць. Вось гэты спосаб, маючы на ўвазе надыходзячае лета, мы тут і апішам.

Для таго, каб аблава прайшла пасьпяхова, трэба загадзя зрабіць падвыўку і знайсьці логава. Логавы ваўкоў звычайна знаходзяцца недалёка ад рэчкі, ручча, балота і г. д. у невялікіх лясох, найбольш па краёх яго ў яловым зарасьніку. Вывадак бывае каля 4—6 ваўкоў. Паміма старога ваўка часта пры гняздзе бывае 2—3 пераяркі. У гэтым месцы ваўкі вельмі баязьлівы і нават ноччу каля логаў ніякае жывёлы не чапаюць, хіба толькі гэта зробяць пераяркі. Трохі падужэўшых ваўчанят старыя водзяць на корм, дзе яго прыгатавалі старыя ваўкі, ад чаго каля логаваў заўсёды бываюць сьцежкі. Гэта месца будзе забруджана воўчым памётам, касьцьмі, шэрсьцю і інш., па якіх і пазнаецца логава. Ваўчаняты выходзяць на корм прыблізна ў ліпені м-цы, калі, лепш за ўсё, і трэба шукаць гнёзды. Але трэба ведаць, каб вывадкі ня сышлі з логаваў, бо тады іх узяць будзе цяжэй. У гэты час і трэба пачынаць падвыўку. Усумерку асоба, якая ўмее выць павоўчы, накіроўваецца туды, дзе часта чуць вый і пачынае выць. Падвываць можна і як пераярак і як стары воўк. Пераярак вые тонкім галаскам, а стары басам, бяручы пад канец усё ніжэйшыя і ніжэйшыя ноты. Калі ваўкі пасьля 2—3 раз не адгукнуліся, трэба пераехаць у другое месца, бо тут іх няма, а калі ваўкі блізка, дык яны зараз-жа адгукнуцца. Спачатку адгукнуцца пераяркі і стары, а потым пасабачы забрэшуць і малыя. Посьпех аблавы будзе залежаць ад таго, ваўкі адгукнуліся на логавах ці на выхадзе або на жырах. Бывае, што ваўкі не адгукнуцца ад першага разу, калі абодвы старыя дома. Але як толькі самец на промысьле, дык зараз-жа адгукнецца самка, а потым і апошнія. Калі ваўкі адгукнуліся, трэба кінуць падвываць і назаўтра раніцой зноў падвыць і праверыць ці, на тым самым месцы, дзе ўчора, адгукнуліся ваўкі, бо яны часта бадзяюцца на корм і могуць адгукнуцца ў пераходзе. Калі і ў другі раз ваўкі адгукнуліся на адным і тым-жа месцы, значыцца тут іх логавы. Трэба заўважыць, што аблаву ня трэба пачынаць датуль, пакуль ня будзе дакладна ўстаноўлена месца логаваў. Упоўдзень другога дню падвывала накіроўваецца на месца шукаць логаваў. Яны знаходзяцца, як ужо гаварылася вышэй, найчасьцей у крэпкіх мясцох, у яловым зарасьніку і іх можна знайсьці па вытаптанай траве, накіданых касьцях і г. д. Пасьля гэтага застаецца толькі зрабіць аблаву.

Для гэтага, асоба, якая рабіла падвыўку, павінна вылічыць, колькі трэба стралкоў адпаведна мясцовасьці і назначыць дзень аблавы.

*) Динамика и географическое распространение охотничьей фауны БССР, стар. 48.

